*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 29 (715) 3 ЖНІЎНЯ 2005 г.

## 17 - 18 верасня ў Лідзе Міжнародны рыцарскі турнір “Замак Гедзіміна”



На 17 і 18 верасня Ліда сабрала ўсе магчымыя святы.

17 верасня ў Лідзе прызначаны мясцовыя дажынкі, якія плаўна пяройдуць у даўно запланаваны Міжнародны рыцарскі турнір “Замак Гедзіміна”. Створаны прадстаўнічы арганізацыйны камітэт, у замку поўным ходам ідуць работы па падрыхтоўцы да турніру.

Але на 17 верасня прыпадае і яшчэ адна знакамітая дата ў гісторыі горада. 415 гадоў назад **17 верасня 1590 года** Вялікі князь Літоўскі Жыгімонт IV Ваза і кароль Польскі Жыгімонт III Ваза надаў гораду Лідзе Магдэбургскае права.

Ну і не трэба забываць, што **18 верасня 1939 года** ў Ліду ўвайшла Чырвоная Армія і Лідчына была далучана да БССР.

А зараз справа застаецца за “малым” сабраць з лідскіх палеткаў годны ўраджай, каб святкаваць ды гуляць з добрым настроем.

## 9 жніўня 95 гадоў з дня народзінаў Ларысы Геніюш



***Запрашаем да Ларысы Геніюш***

**У суботу, 6 жніўня, у Зэльве адбудуцца мерапрыемствы, прысвечаныя 95-годдзю беларускай паэткі Ларысы Геніюш.**

**Пачатак у 12 гадзін каля Троіцкай царквы.**

## А на Беларусі жнуць



*Свежа зжатае жытняе поле ў Карэліцкім раёне Гарадзенскай вобласці*

Новае выданне

## ЭПІСТАЛЯРНЫ РАМАН ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Гэту кнігу міжволі ўзважваеш на далоні, нібы ёмістую цаглінку з гістарычнага падмурку Беларушчыны. Узважваеш з нялёгкім уздыхам: глыбока ў душу, трывожна і пранікліва, яна, гэта кніга, углядаецца ва чыма мужнай і таленавітай беларускай паэткі Ларысы Геніюш.

Гэта кніга незвычайная і арыгінальная. Кніга, якую чытаеш, як гістарычны раман. Падобнага выдання ў Беларусі яшчэ не было. Яшчэ ніколі не выходзіла эпістальярная спадчына асобным выданнем у Беларусі ні пісьменнікаў, ні вучоных, ні палітыкаў. Нарэшце, напачатку XXI стагоддзя, такое выданне ў нашай рэспубліцы з'явілася ўпершыню. Вядома, беларусы спазніліся можа на цэлае стагоддзе ў плане выдання эпістальярнай спадчыны асобнымі выданнямі. А выдаваць у нас лісты ёсць каго. Найперш гэта лісты У. Сыракомлі, А.Вярыгі-Дарэўскага, В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, А.Ельскага, Я.Лучыны, А.Гурыновіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, У.Караткевіча, М.Танка, В.Быкава, З.Верас, У.Дубоўкі, Г.Леўчыка, А. і Л. Луцкевічаў, Г.Каханоўскага, дзеячаў беларускай эміграцыі і многіх-многіх іншых. Іх лісты ўжо друкаваліся на старонках зборніка “Шляхам гадоў”, гадавіка “Скарыніч”, часопісаў “Полымя”, “Маладосць”, “Куфэрак Віленшчыны”, у зборах твораў. Але асобнымі выданнямі іх эпістальярная спадчына, на вялікі жаль, не выдавалася.




*(Заканчэнне на ст. 3.)*



Новае выданне

# ЭПІСТАЛЯРНЫ РАМАН ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

По выданнях эпістальярнай спадчыны мы адстаем ад палякаў, літоўцаў, украінцаў і рускіх. У Расіі амаль штомесяц выдаюцца ў розных выдавецтвах асобнымі кнігамі лісты вялікіх людзей, найперш пісьменнікаў. Вось нядаўна ў Іркуцку выйшла перапіска Віктара Астаф'ева з крытыкам Аляксандрам Макаравым пад назвай "Твердь и посох", свет пабачылі асобнымі выданнямі лісты Сяргея Даўлатава, Д. Меражкоўскага да П. Перцава і іншыя. Пісьменніцкі эпістальярный — гэта даволі рэдкі жанр (не таму, што пісьменнікі рэдка пішуць лісты, а таму, магчыма, што яны рэдка пішуць іх з-за сваёй па сутнасці прафесіі і занятасці). Менавіта Ларыса Геніюш і стала першым за доўгія гады паэтам у Беларусі, чые лісты становяцца набыткам не вузкага кола спецыялістаў, а шырокіх мас чытачоў. Эпістальярная спадчына Ларысы Геніюш пад назвай "Каб вы ведалі", дзякуючы Міхасю Скоблу, які беражліва, далікатна і прафесійна ўклаў пісьмы паэткі, напісаў да кнігі ўступнае слова, зрабіў каментарый, пабачыла свет літаральна на днях у менскім выдавецтве "Лімарыус" накладам 500 асобнікаў.

Эпістальярная спадчына Ларысы Геніюш "Каб вы ведалі" — цэлы пласт яе жыцця і творчасці. У кнігу ўвайшлі 355 лістоў паэткі, якія былі ёю напісаны на працягу 38 гадоў, пачынаючы са студзеня 1945 да студзеня 1983 гадоў. Найперш, гэта лісты, адрасаваныя свайму мужу Янку Геніюшу, Міколу Прашковічу, Максіму Танку, Юрку Голубу, Зосьцы Верас, Міхасю Чарняўскаму, Міколу Канашу, Міколу Ермаловічу, Валянціне Трыгубовіч, Данцуце Бічэль, Алесю Белакозу, Раісе Жук-Грышкевіч, сыну Юрку Геніюшу, Надзеі Караткевіч, Ірыне Крэнь і іншым. Найбольш за ўсё у кнізе надрукавана лістоў Ларысы Геніюш да літаратуразнаўцы, крытыка, перакладчыка, кандыдата філалагічных навук Міколы Прашковіча (1932-1983), які ў свой час быў звольнены з Інстытута літаратуры за "беларускі нацыяналізм". Мікола Прашковіч быў самым актыўным карэспандэнтам Ларысы Геніюш. Копіі гэтых пісем (а іх ажно 156) перадала Міхасю Скоблу Ірына Крэнь — даследчыца беларускага школьніцтва, якой сёлета не стала.

"Каб вы ведалі" — эпістальярны раман Ларысы Геніюш. Раман праўдзівы, шчыры, глыбокі, суб'ектыўны і аб'ектыўны. Ён, нібы з'яўляецца працягам яе вядомай "Споведзі", але споведзі ў лістах да сваіх сяброў, знаёмых, родных.

Па лістах адчуваеш, як паэтка дасканала ведала гісторыю Беларусі, жыццё і дзейнасць знакамітых беларусаў. Па гэтых лістах можна напісаць падручнік па гісторыі Беларусі. Паэтка шкадуе і нават папракае сама сябе, што слаба ведае гісторыю Беларусі, хаця веды на ніве гісторыі ў яе на той час былі фенаменальныя. У лісце да Міколы Прашковіча Ларыса Геніюш у студзені 1964 года пісала: *"Будзе Вам праца, дарагі мой сябра, пакуль перагледзіце раскіданую па сьвеце 40-тамовую Мэтрыку Вялікага Княства Літоўскага. Я калісьці напісала паэму аб Рагнедзе. Я задыхалася ад нястачы матэрыялу. Гэта было ў Празе. Пасьля пачала пісаць аб Эўфрасіньні Полацкай, таксама не хапала матэрыялу. Я вымольвала начамі вобразы ў свае фантазіі. Адзін раз я з захапленьнем слухала даўгую лекцыю аб нашай Зофьі Гальшанскай, чацьвёртай жонцы караля Ягайлы. Яшчэ мне даваліся чуць з рукапісу аб хрысціянстве на нашых землях. Ягайла ж быў хрышчаны да таго, як жаніўся зь Ядвігай і зусім ня быў горшы ад хваляных польскіх вяльможаў. Напрыклад, я ведаю, што Ядвіга заложыла ў Празе Чэскай інтэрнат для беларускай моладзі, якая там студ'явала..."*.

Лісты Ларысы Геніюш вельмі падрабязныя, шчырыя і павучальныя. У многіх з іх паэтка дае парады, яны багатыя на крылатыя выслоўі, прыказкі, прымаўкі, прыгожыя, напышлівыя выразы, фразы. Вось некаторыя з іх: *"Не дазваляйце болей забіваць...", "Плакаць — гэта абражаць памяць, а яна мусіць жыць...", "Прыяцеляў шаную, але кнігаў не пазычаю...", "Мацярынства — гэта незвычайная з'ява, гэта цуд!", "Інтуіцыя мінулага, адчуваньне сучаснага і прадбачаньне ці лягічнае прадчуцьцё будучых дзён, намаганьне іх сьветлага напрамку — вось вартасьць паэта!", "Кожны чалавек — як казка", "Бог ня выдасьць — сьвіньня ня зьесьць!", "Паэзія — гэта нейкая ласка і дапамога нябёс у выказаньні і аб'яўленьні праўд і надзеяў, якія ўжо даў зь сябе народ, ня ведаючы аб гэтым. Паэзія, па-мойму, гэта прыгажосьць, сьмерасьць і праўда жыцьця. Паэзія — гэта гуманнасьць!"*.

У лістах Ларыса Антонаўна заўсёды прыгадвае свайго сына Юрку. Калі пісала са сталінскіх лагераў з Абезі, то хваляваўся: як там Юрка, што з ім, дзе ён? Калі ўжо жыла ў Зэльве, то цікавілася яго жыццём на Беласточчыне. Вельмі перажывала за тое, што сын любіў выпіць. А яна не любіла тых, хто часта зазіраў у чарку. У адным з лістоў да Міколы Прашковіча паэтка папярэджвае: *"Я вельмі не хачу, каб Вы пілі хоць капельку гарэлкі!"*.

Праз эпістальярную спадчыну Ларысы Геніюш праходзяць многія пісьменнікі, якіх паэтка любіла, ведала, з якімі сустракалася і перапісвалася. Яна добра разбіралася ў людзях, магла лёгка адрозніць, хто з іх таленавіты, а хто бездар. І Ларыса Геніюш не памылялася. Вось што прарочыла і казала яна, пра тады яшчэ маладых, Вольгу Іпатаву, Яўгенію Янішчыц, Алеся Разанава: *"Разанаў многаабяцаючы, будзем думаць, што вырасьце ў сілу, якая нам цяпер найболей патрэбная", "Усе мы з захапленьнем чыталі нашу маленькую, надзейную Янішчыц. Як добра, што яна далей вучыцца, але адначасова хацелася б, каб набыла яшчэ сярод сваіх, каб больш убрала ў сябе чараў, глыбіні, гутарак, духу і паху роднай зямлі. Яна — добры майстар і зможа ўсё гэта некалі ператварыць тонкай і сільнай жаночай рукою — у вялікае!", "Была ў нас некалькі разоў маладзенькая Оля Іпатава. Нам яна вельмі спадабалася — невялікая, прыгожанькая, разумная, сціплая. Уцякла пасьля нялюдзкіх зьдзекаў ад мачыхі ў дзятдом, гдзе ня чула слова беларускага (у Горадні!), а мова матчына — за ёю, і так цяпер хораша піша..."*.

У лістах Ларысы Геніюш можна прачытаць добрыя словы і пра Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Янку Брыля, Максіма Танка. І нядобрыя словы пра тых жа Алеся Бажко, Якава Гяроцвіча, пра інтрыганку Паўліну Мядзёлку і пра іншых. Напісала аўтарка так, якімі яны былі на самой справе, напісала, каб мы ведалі. У лістах, якія склалі кнігу, хораша выяўлены ідэйна-палітычныя, эстэтычныя і творчыя погляды беларускіх, чэшскіх, рускіх, польскіх, нямецкіх, украінскіх дзеячаў літаратуры і мастацтва, культуры і палітыкі. Лісты Ларысы Геніюш патрабуюць сёння грунтоўнага навуковага даследавання.

Эпістальярная літаратура (ад грэчаскага слова epistole — пасланне, ліст). Пасланне нашчаткам-беларусам XXI стагоддзя мы атрымалі ад народнай паэткі Беларусі. Праўда, гэта далёка не ўся яе эпістальярная спадчына. Але Ларыса Геніюш упэўнена вярталася на Беларусь не толькі вершамі, прозай, але і ліставаннем.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

# Літаратурна-мастацкі плянэр, прысвечаны Уладзімінру Караткевічу на Аршаншчыне

З першага па дзесятае ліпеня на Аршаншчыне праходзіў адзінаццаты Драздовіцкі плянэр. На гэты раз ён быў прысвечаны сямідзесяціпяцігоддзю Уладзіміра Караткевіча. Пачаўся ён з ускладання кветак да помніку любімага пісьменніка. Гэта быў самы шматлюдны плянэр Асаблівасць яго ў тым, што разам з маладымі мастакамі працавалі маладыя паэты і пісьменнікі пад кіраўніцтвам вядомага ў Беларусі паэта Андрэя Хадановіча, які кожны дзень арганізоўваў практычныя заняткі для сваіх маладых сяброў. Цікавыя лекцыі для іх прачыталі добра вядомыя ў літаратурных колах Ганна Кісліцына. Валянцін Акудовіч і Ігар Бабкоў і сам Андрэй Хадановіч. Кожны вечар маладыя паэты збіраліся ўвечары ля вогнішча і чыталі свае творы, а барды Павел Свярдлоў і Уладзя Лянкевіч спявалі свае ўласныя песні. Мне здаецца, што такія творчыя вечары застануцца ў памяці на ўсё жыццё ў удзельнікаў плянэра. Першыя дні, як звычайна, чуецца руская гаворка. Пад канцу пленэра гучыць толькі родная беларуская мова. І так заўжды бывае на кожным плянэры. Спачатку паэты і мастакі трымаліся сваёй кампаніі, а потым так пасябравалі, што шкада стала развітвацца. Вядомыя мастакі вучылі моладзь сакрэтам сваёй прафесіі. Мастак Алесь Марачкін з задавальненнем пісаў не толькі пейзажы роднага краю Уладзіміра Караткевіча, але і партрэты маладых паэтак Марыльны Мартысевіч, Нядбай Тацяны і інш.

Спадзяюся, што гэтыя творы займуць пачэснае месца ў музеях Беларусі. У час плянэру мяне не раз наведвала думка, што сярод маладых паэтаў будучыя Барадуліны, Бураўкіны, Гілевіч, а сярод маладых мастакоў будучыя Драздовічы, Сергіевічы, Марачкіны. Мастакоўскую моладзь вучылі майстэрству вядомыя мастакі: Алесь Марачкін, Вячаслаў Шамшур, Алег Скавародка, Алесь Шыёнак. Удзельнікі літаратурна-мастацкага плянэру – прадстаўнікі ўсіх абласцей Беларусі. Гэта надзвычай цікава. Ужо трэці раз бярэ ўдзел у нашым мерапрыемстве мастак з Мотыля, што на Берасцейшчыне, Янка Рамановіч. Гэта надта працавіты творца, і ў кожны яго прыезд заўважаеш, як расце яго майстэрства. У Юрася Платонава з Гомеля цікавыя працы і ў Ігара Скавародкі з Берасця таксама. Яны не першы раз прымаюць удзел у нашым плянэры. Першы раз да нас прыехалі Вадаевіч Зміцер і Акеньшын з Магілёва, Таранда Мікалай Іванавіч з Барані, Пакроўскі Андрэй з Гародні, Вішнеў Зміцер, Кудзін Захар, Камянец Алесь, Лянкевіч Ліза з Менску, Ганчарова Ганна, Атаманчук Гелена з Віцебску.

Адкрыццё плянэру пачалося ў Віцебску ля помніка Уладзіміру Караткевічу, потым імпрэза перамясцілася ў літаратурны музей, дзе вядомыя барды Лера Сом і Андрэй Мельнікаў спявалі свае песні і песні на словы Уладзіміра Караткевіча. Валанцёрамі з "Сёмай грані" на беразе Дзеванскага возера былі усталёваны намёты. Атрымаўся цэлы гарадок.

Успыхнуўшае вогнішча ярка асвятліла наваколле і вялікі натоўп сабраўшыхся людзей. Усіх цікавіла, як будзе гарэць прывязаная да бервяна лялька-вядзьмярка. Ля вогнішча вадзілі карагоды, спявалі, скакалі цераз агонь. Потым прагледзеўшы цікавы перфоменс, арганізаваны, Алесем Камянцом, Зміцерам Вішневым і Захарам Кудзіным, усе накіраваліся да возера. Дзяўчаты кідалі ў ваду вяночкі, хлопцы спускалі на ваду плыты, на якіх запальвалі кастры. Відовішча такое, што цяжка перадаць словамі.

Тут жа ля вялікага вогнішча адбылася незабыўная сустрэча ўдзельнікаў плянэру з Віктарам Шалкевічам, якая доўжылася аж да раніцы. Нараўна, гэта ўспамін на ўсё жыццё.

9 ліпеня прынялі ўдзел у Купалаўскіх чытаннях, якія адбыліся ў Ляўках.

Закрыццё плянэру адбылося ў Воршы ў музеі Уладзіміра Караткевіча. Там былі падведзены вынікі працы дзесяцідзённага плянэру. Нас гасцінна сустрэлі супрацоўнікі гэтай установы.

Удзельнікаў плянэру вітаў цудоўны этнаграфічны калектыў з Барані, які па-майстэрску выканаў беларускія народныя песні і песні на словы Уладзіміра Караткевіча. Музейны дворык не змог змясціць усіх прац мастакоў: так іх многа было. Выступоўцы гаварылі аб Караткевічу (Многія былі з ім знаёмыя альбо былі яго сябрамі), аб сваіх уражаннях аб плянэру. Георг Ліхтаровіч у сваім выступленні скарыстаў песню на словы Караткевіча. Маладыя паэты чыталі свае творы. Усіх уразіла выступленне Паўла Свярдлова, які чытаючы свой верш "Я лятаю", залез на дах двухпавярховага будынка музея і там закончыў сваё выступленне. Відовішча было захапляльнае.

Развітанне было вельмі цёплае, усе ўдзельнікі дзякавалі арганізатарам за цікава арганізаваны плянэр. Прасілі запрасіць іх на наступны.

Мерапрыемства было арганізавана культурна-асветніцкім цэнтрам імя Язэпа Драздовіча пры падтрымцы ПЭН-цэнтра.

*Ада Райчонак, старшыня КПЦ імя Я. Драздовіча, старшыня Шаркаўшчынскага ТБМ.*

# Кніга пра Казіміра Нарбута

Камітэт гісторыі навукі і тэхнікі Польскай Акадэміі Навук і Таварыства польскай культуры на Лідчыне выпусцілі кнігу Ірэны Стасевіч-Ясюковай "Казімір Нарбут (1738-1807)". **Кніга выйшла на польскай і беларускай мовах.** Гэта чацвёртая кніга з серыі пра знакамітых лідзян. Да таго выйшлі кнігі "Людвік Нарбут" (аўтары Павел Камароўскі, Аляксандр Кулышка), "Ігнацій Дамейка" (аўтары Ядвіга Гарбоўская і Кшыштаф Якубоўскі) і "Станіслаў Баніфацый Юндзіл" (аўтар Ванда Грамбецкая). Рыхтуецца да друку кніга Яраслава Куркоўскага "Мацей Догель", а таксама кнігі Антонія Дыдыча "Святары Крэсаў" і Ганны Мар'і Келяк "Пра крэсавы гербарый Элізы Ажэшкі".

*Казімір Нарбут нарадзіўся ў в. Крупава каля Ліды. Аўтар першай кнігі "Логіка" на польскай мове, дзеяч Камісіі Нацыянальнай Адукацыі і Таварыства пачатковых кніг Рэчы Паспалітай. Пробашч касцёлаў у Радзыміне і Лідзе. Патрыёт Бацькаўшчыны, як і ўсе Нарбуты.*

*Яраслаў Грынкевіч.*



# Страты нацыянальнага адраджэння ў канцы XX—пачатку XXI стст.

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Дзеячы культуры

Багатыроў Анатоль (30.07.1913 — 19.09. 2003), кампазітар, народны артыст Беларусі.
Бальчэўская Галіна (20.01.1945 -- 17.05. 2005), заслужаная артыстка Беларусі, актрыса Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.
Барышаў Гурый (30.04.1928 — 2001), мастацвазнаўца.
Белахвосьцік Валянцін (06.09.1934 — 10.06.2003), народны артыст Беларусі.
Браварская Зінаіда [18(31).08.1916 — 18.02. 2005], народная артыстка Беларусі.
Давідовіч Лілія (25.12.1936 — 25.04.2002), народная артыстка Беларусі.
Давыдзенка Леанід (09.05.1941 — 28.10. 2002), скульптар.
Данілюк Святлана (25.03.1939 — 08.08. 2003), народная артыстка СССР.
Драчоў Пятро (06.07.1937 -- 08.05.2005), мастак рэдакцыі "Беларускага гістарычнага часопіса).
Дробаў Леанід (06.08.1926.— 07.07.2002), мастацтвазнаўца, жывапісец.
Дубіна Аляксандар (1953 — 2003), старшыня Саюза кавалёў СНД, каваль з г. Глыбокае.
Зямніцкі Юрась (1921 — 08.12.2002), кіраўнік беларускага хору "Сябрына" ў Вільні.
Кармунін Павел (28.01.1919 — 01.03.2002), народны артыст Беларусі.
Карзянкова Аляўціна (25.03.1935 — сакавік 2002), балярына, народная артыстка Беларусі.
Клімава Аляксандра (01.10.1921 -- 13.05. 2005), народная артыстка Беларусі і СССР.
Крэнь Ірына (25.07.1929 — 20.02.2005), журналістка.
Кудрэвіч Уладзімер (02.05.1927 — 15.02. 2003), заслужаны артыст Беларусі.
Кулік Яўген (31.10.1937 -- 12.01.2002), мастак.
Лятун Уладзімер (20.04.1935 — 19.05.2001).
Марухін Юры (13.07.1937 — 20.12.2001), кінарэжысёр.
Масьлюк Валеры (30.03.1953 — 26.08.2001), рэжысёр, драматург.
Мулявін Уладімер (12.01.1941 — 26.01.2003), артыст эстрады, кампазітар, народны артыст Беларусі.
Наўмовіч Міхась (03.10.1922 — 04.03.2004), мастак, скульптар.
Пацук Міхась (1950—2004), сьпявак, саліст ансамбля "Вясельле", "Сьвята".
Пташук Міхаіл (28.01.1943 -- 27.04.2002), кінарэжысёр, народны артыст Беларусі.
Саўчанка Аркадзь (06.04.1936 — 2004), сьпявак, народны артыст СССР і Беларусі.
Ціхановіч Яўген (12(25).11.1911 - 05.07.2005), мастак, экслібрыст.
Цыхун Апанас (05.05.1910 — 09.03.2005), краязнавец, заслужаны настаўнік Беларусі, стваральнік у 1964 г. Мемарыяльнага музея Я.Ф.Карскага ў в. Лаша Гарадзенскага раёна (дзейнічаў да 1997 г.).

## Грамадскія, палітычныя і дзяржаўныя дзеячы

Айцец Максім (1928 — 27.02.2002), архіяпіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі, кіраўнік Магілёўскай праваслаўнай епархіі.
Гермянчук Ігар Іванаў (31.12.1960 — 29.04.2002), былы рэдактар газеты "Свабода" і часопіса "Кур'ер".
Кажан Віталь (09.10.1916 — 17.01.2004), галоўны скарбнік Рады БНР (1949—2004 гг.).
Каралёў Алесь (27.01.1948 -- 13.05.2005), настаўнік гісторыі, аўтар кнігі "Жодзінская хроніка", актывіст партыі БСДГ.
Кармілкін Уладзімір Паўлаў (15.02.1934— 16.07.2002), актывіст БНФ, фатограф, афіцэр запасу.
Карчміт Міхаіл Аляксандраў (1949 — 2004), старшыня праўленьня СВК "Агракамбінат "Сноў", член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.
Кахаюўская (дзявочае Шабуня) Яніна (26.11.1909 -- 16.07.2005), актывістка задзіночання беларусаў у Нью-Ёрку, бабуля Багдана Андрусішына ("Данчыка").
Кузьмін Аляксандар Трыфанаў (24.07.1918 — 01.05.2003), сакратар ЦК КПБ (1971— 1986 гг.).
Мацюкевіч Марыя Сцяпанава (1950 — 07.01.2003), кіраўнік Салігорскай гарадской арганізацыі ТБМ, актывіст БСДГ.
Нятылькін Анатоль Іванаў (06.04.1941 — 27.01.2002), старшыня Партыі справядлівасці і працы.
Палякоў Іван Яўцееў (25.11.1914 — 18.02. 2004), старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР (1977—1985 гг.).
Рагуля Барыс (1919 — 22.04.2005), намеснік старшыні Рады БНР, аўтар кнігі ўспамінаў "Беларускае студэнства на чужыне".
Рулінскі Мікалай Максімаў (1923 — 23.10. 2002), кіраўнік Троцкай суполкі беларусаў у Літве.
Севасьцьянчык Людміла Аляксандрава (1933 — 2004), былы дырэктар выдавецтва "Народная асьвета".
Тарасевіч Георгі Станіслаўаў (17.07.1937 — 21.03.2003), палітычны й дзяржаўны дзеяч, дыпламат.
Усцілоўскі Георгі Іванаў (15.04.1915 -- 02.01. 2005), старшыня гістарычна-краязнаўчага, праваабарончага, дабрачыннага таварыства "Сосногорский мемориал", аўтар кнігі ўспамінаў "Многоликая правда" (Мінск, 1999).
Чарняўскі Ўладзіслаў (1916 — 22.12.2001), пробашч Вішнеўскага касцёла Валожынскага раёна, які вёў набажэнствы на беларускай мове.
Шышэя Кастусь (17.09.1922 — снежань 2004), дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Вільні.

Кожны з пералічаных тут людзей заслугоўвае пэўнага ўшанавання. Усе яны клапаціліся аб Беларусі і пакінулі след на нашай зямлі. Некаторыя з іх пахаваны на Ўсходніх могілках у Менску, іншыя — у іншых месцах. А ці належным чынам мы ўвекавечылі іх памяць?!

Некалькі гадоў на магілах Рыгора Шырмы, Барыса Сачанкі і Георгія Заборскага не было помнікаў. Няўжо яны перад Бацькаўшчынай не зарабілі сабе на помнік?!

Многія народы свету маюць свае нацыянальныя някропалі. Някропалі ў Расеі — гэта Неўская лаўра ў Санкт-Пецярбургу і Красная плошча каля Крамлёўскай сцяны ў Маскве, у Польшчы — Вавельскі замак каля Кракава. У нейкім сэнсе можна і беларусам гаварыць пра свой нацыянальны някропаль. Некаторыя вялікія літоўскія князі пахаваны ў Вільні, а тыя, што былі адначасна й каралямі польскімі спачываюць у Кракаве. Там знайшлі вечны прытулак і іншыя нашыя славутыя землякі — Тадэвуш Касцюшка і Адам Міцкевіч. А Кастусь Каліноўскі спіць вечным сном у Вільні. Максім Багдановіч да гэтага часу спачывае на гарадскіх могілках у Ялце. Славутыя пісьменнікі, паводле іх запаветаў, пахаваны на вясковых могілках на малой радзіме, каля сваіх мацярок: Алесь Адамовіч — у Глушы Бабруйскага раёна, а Максім Танк — у Пількаўшчыне Мядзельскага раёна.

У Менску ёсць некалькі могільнікаў, дзе знайшлі спачын славутыя сыны і дочкі беларускага народу. На Вайсковых могілках пахаваны класікі беларускай літаратуры Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны і інш. Няма сумнення, што шмат дзеячоў беларускай навукі і культуры былі расстраляныя ў 1937—1941 гг. у Курапатах. Да гэтага часу кіраўніцтва дзяржавы не паклапацілася, каб зрабіць тут мемарыял, хоць пастанова беларускага ўраду аб будаўніцтве помніка была прынята яшчэ 18 студзеня 1989 г. Шмат дзеячоў культуры пахаваны на Кальварыйскіх могілках, напрыклад, святар Ян Матусевіч. Некалькі дзесяткаў апошніх гадоў вядзецца пахаванне дзеячоў культуры, дзяржаўных дзеячаў і военачальнікаў на Усходніх могілках. Тут знайшлі вечны спачын Рыгор Шырма і Стафанія Станюта, Пятрусь Броўка і Васіль Быкаў, Сяргей Прытыцкі і Пётр Машэраў ды іншыя. На мой погляд, Усходнія могілкі, Вайсковыя могілкі ды Курапаты могуць пры належным добраўпарадкаванні стаць часткамі Беларускага нацыянальнага някропаля, куды можна зайсці, нізка пакланіцца памяці славутых людзей нашай Бацькаўшчыны да пакласці на іх магілы кветкі. Яны не шкадавалі сябе дзеля Радзімы. Мо таму яны і рана ад нас пайшлі, пакінуўшы нам сваю спадчыну і свае клопаты.

*Сымон Барыс.*

# ІМГНЕННІ

Такую назву мае кніга вершаў Наталлі Барысаўны Кучмель, што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура. Наклад зборніка 1000 асобнікаў . кніга з'яўляецца першай у творчым жыцці паэтэсы. Яна мае 60 старонак і чытаецца вельмі хуценька.

Паэтэса скончыла філфак БДУ. Працавала карэктарам, стыль рэдактарам у кніжных выдавецтвах і перыядычных выданнях. Цяпер працуе ў РУП "ВЦ БДУ". Друкавалася Наталля ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Асабіста я прыгадаў 1997 год, калі завітваў з артыкуламі ў штотыднёвік "Сям'я", мяне ветліва сустрэла прыгожая дзяўчына, якая гасцінна частавала печывам і гарбатай... Гэта была карэктарка штотыднёвіка – Наталля... Яе можна сустрэць на розных вечарынах і імпрэзах у беларускай сталіцы.

Усе, хто асабіста ведае паэтэсу, разумее, што дэбют мог адбыцца яшчэ 10-15 гадоў назад. Усе ведаюць, што паэтэса мае вялікую папулярнасць сярод творчай інтэлігенцыі г. Менска, але не спяшаецца рабіць кар'еру, займаць высокія пасады... Магчыма Наталля і не будзе збіраць рэкамендацыі на ўступленне ў Саюз пісьменнікаў і рабіць прэзентацыі кнігі па гарадах Беларусі, але дакладна зразумела, што творчасць паэтэсы ўвойдзе ў гісторыю беларускай літаратуры. Поспехаў табе Наталля!

*Аляксей Шалахоўскі.*

# У НОЧ З 23 НА 24 ЛІПЕНЯ НЕВЯДОМЫЯ РАСФАРБАВАЛІ СВАСТЫКАЙ СЦЕНЫ І ЎВАХОДНЫЯ ДЗВЕРЫ ШТАБ-КВАТЭРЫ ТБМ

У ноч з 23 на 24 ліпеня невядомыя расфарбавалі свастыкай сцены будынка па вуліцы Румянцава, 13 у Менску, дзе размяшчаецца штаб-кватэра грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ).

Як паведаміў БелаПАН Канстанцін Тарасаў — намеснік галоўнага рэдактара газеты "Новы час", якую выпускае ТБМ, на сценах будынка чорнай фарбай намаляваная эмблема незарэгістраванай Нацыянал-бальшавіцкай партыі і зроблены надпіс "НБП". Чорнай фарбай таксама заліты ўваходныя дзверы і шыльда ТБМ.




Паводле слоў К. Тарасава, супрацоўнікі офіса звярнуліся ў РУУС Цэнтральнага раёна Менска. На месца здарэння выехала група, якая зафіксавала факт правапарушэння, аб чым быў складзены адпаведны пратакол.

"Пакуль цяжка нешта каментаваць. Ніколі нічога такога ў нас не здаралася. Тым больш што мы не палітычная арганізацыя, а моўная. З гучнымі палітычнымі заявамі ТБМ ніколі не выступала. Я схіляюся да версіі, што гэта проста хуліганская выхадка", — сказаў Канстанцін Тарасаў.

Варта зазначыць, што аналагічныя інцыдэнты рэгулярна адбываюцца з менскай штаб-кватэрай Партыі БНФ. Апошні раз гэта здарылася тры тыдні таму. Невядомыя замазалі чорнай фарбай уваходныя дзверы. Побач на асфальце былі зроблены надпісы "Чамадан. Вакзал. Варшава" і "БНП" з сімволікай гэтай ультралевай арганізацыі.

*Юры ПАЦЁМКІН, БелаПАН.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеная інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 08. 2005 г. у 11.30. Замова № 1355.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
Кошт у розніцу: па дамоўленасці.